# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 29 (699) 20 ЛІПЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.





Мая Айчына — наш дом мільёнаў, рвецца ў неба комінамі фабрык, свідруецца ў багатае сэрца роднай зямлі па руду, вугаль, цынк, свінец... Расце наш дом, вырастае са шкла і сталі. Падымаецца ў неба дамамі светлымі, з вялікімі вокнамі залітымі сонцам.

Ствараем новыя абычаі, новую мадэль чалавека. Яго вызначае радасць нашага жыцця, лад наш грамадскі.

У граніцах 25-ці год роднай краіны месца гордае знайшлі ўсе яе жыхары і я. 25 год Народнай улады навучылі нас новай рамантыкі. Далі нам гэтыя гады неспакойны творчы дух, гарачыя галовы для працы і навукі.

Наша новая мадэль жыцця на першым месцы ставіць нашу зямлю, наша мора і горы, нашы палі і лясы, азёры, нашы гарады, вёскі, помнікі гісторыі і культуры, нашы непаўторныя краявіды — свежыя расістыя світанні і захады сонца.

Не была я за граніцай, але не паверу, каб дзе было прыгажэй, мілей, спакайней і лепш, як у нас. Бо сэрцам трэба глядзець. Я ведаю, мая дачка будзе заўсёды хваліцца, што нарадзілася ў першым 25-цігоддзі Народнай Айчыны.

Грамадзянін Польскай Народнай Рэспублікі, зямляк і брат, затрымайся на хвіліну задумы. Можа сядзеш на пахучай траве ў зефіры 23 мерыдыяна і 53 паралелі. Здалёк нясецца бесклапотны смех тваіх дзяцей і пах свежага малака. Канікулы.

Мы на парозе вялікіх падзей. Яны парушаюць сэрца ў хутчэйшы рытм. Прайшлі мы эпоху вялікую, а там за адчыненымі дзвярыма заўтрашні наш дзень супольны.

Свята Айчыны ў сярэдзіне лета. На полі сонца смажыцца на плячах гаспадароў. У гуце — полымя з мартэнаў гарыць на тварах рабочых, у шахце чорнае нашае золата блішчыць ў вачах людзей.

Штодзень ідзе барацьба за жыццё, усё лепшае. Услухайся, грамадзянін, у крокі і рытмы Айчыны!

За 25 год збудавалі мы свой дом, дзе ўсе роўныя, усе патрэбныя, дзе велізарныя заводы, палацы, новыя гарады. Аплялі мы неба электрычнай сеткай, а зямлю дарогамі.

Глядзець трэба на дэталі, з іх складаюцца вялікія рэчы. Гаспадар не будзіць ужо рана 10-цігадовага сына, каб ішоў пасвіць кароў, купляе электрычнага пастуха. А дзесяцігадовы Росцік дасканала маніпуліруе пры матацыкле, кароў ён не пасвіць.

Рамантыкі мы і стварылі новую мадэль жыцця.

У дзень нараджэння Народнай Айчыны тост паднімем за Яе — найпрыгажэйшую, адзіную нашу любоў, вялікую і магутную, разумную і добрую, нашу маладую маці.

Няхай кожнаму ў ёй вядзецца выдатна і няхай кожны ўмее сардэчна ў ёй і за яе хваляваца.

ВЕРА ЛЕЎЧУК

22-га ліпеня нашай Народнай уладзе спаўняецца 25 год. Гэтую юбілейную дату Беларускае таварыства шырока і ўрачыста адзначае. Многія гурткі БГКТ уключыліся ў грамадскія чыны і грамадскую працу, віталі гэтую дарагую нам гадавіну, гадавіну нараджэння новага і справядлівага ладу ў нашай краіне. Актыў Беларускага таварыства пасобных аддзелаў выязджаў і далей выязджае з дакладамі і гутаркамі ў вёскі, у гурткі БГКТ.

Многія зноў гурткі падрыхтавалі мастацкія выступленні на акадэміі прысвечаныя святу Адраджэння. Вялікай папулярнасцю ва ўсіх аддзелах БГКТ карыстаюцца фестыны, на якія збіраюцца сотні людзей, каб выслухаць даклад аб дасягненнях нашай дзяржавы і нашай нацыянальнай меншасці і каб пабачыць багатую мастацкую частку, а пасля ўзяць удзел у танцавальнай вечарыне.

Гайнаўскі аддзел Беларускага таварыства нядаўна арганізаваў фестын у Семяноўцы. Вышэй на вялікім здымку бачым удзельнікаў фестыну, а з правага боку ўнізе выступленне членаў арэшкаўскай эстрады.

На трэцяй старонцы друкуецца фотарэпартаж з гэтага фестыну.

Фота Цаф — Сянько



# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

 **СВЕТ**

### РАЗВАЖНЫЯ СЛОВЫ

Нядаўна адбылася сесія Вярхоўнага Савета СССР. Дэпутаты выслухалі даклад міністра замежных спраў А. Грамыкі аб асноўных кірунках і заданнях савецкай замежнай палітыкі. Даклад высока ацэнены міжнароднымі каментатарамі. Ужо ёсць першыя водгукі афіцыяльных асоб з некаторых краін. А вось некаторыя толькі тэзісы даклада А. Грамыкі.

Міністр рашуча адкінуў унушэнні, што нібы сацыялістычныя краіны апавядаюцца за агранічаным суверэнітэтам. Ніўшто не зможа даць больш поўнага зместу паняццю суверэнітэта, — сказаў Грамыка, — чым права народа да абароны выбранай дарогі перад спробамі спіхнуць яго з гэтай дарогі і пазбавіць яго здабыткаў сацыялізма. Ніхто не зможа адабраць такому народу права абаперціся на дапамозе сяброў, а яго сябрам адабраць права аказаць дапамогу гэтаму народу.

Савецкі Саюз прывівае вялікае значэнне развіццю суадносін з сацыялістычнай Югаславіяй міма, што гэтыя суадносіны не заўсёды фармаваліся гарманійна. Мы пераконаны, што вернасць народаў СССР і Югаславіі для ідэі сувязей і пашырэння кантактаў ствараюць прадпасылкі для далейшага развіцця савецка-югаслаўскіх суадносін, і поўнасцю за гэтым выказваемся.

Гаворачы аб еўрапейскіх праблемах Грамыка сказаў, што справа еўрапейскай бяспекі патрабуе прызнання ўсімі дзяржавамі вынікаў II сусветнай вайны і фарміравання на гэтай аснове суадносін так па між еўрапейскімі краінамі і дзяржавамі, як і краінамі іншых кантынентаў.

Гаворачы аб суадносінах паміж Кітаем і Савецкім Саюзам сцвердзіў, што кіраўніцтва КНР зрабіла ўсё, каб папсаваць суадносіны фарміравання між абедзвюма краінамі ў першых гадах пасля перамогі рэвалюцыі ў Кітаі. Падставай палітыкі СССР у адносінах да Кітая была і астаецца лінія накіраваная на вяртанне і будучае развіццё дружбы паміж абедзвюма краінамі, зразумела, пры рашучым адпоры ўсялякіх правакацый.

Міністр Грамыка заявіў, што савецкі ўрад гатовы прыступіць да абмену поглядамі з урадам ЗША на тэму тзв. стратэгічнай зброі. Адначасова выказаў ён надзею, што абодва бакі будуць падходзіць да гэтай праблемы прадугледжваючы яе аграмаднае значэнне. Савецкі ўрад, — гаварыў савецкі міністр, — заўсёды прывязваў вялікае значэнне да суадносін з ЗША. Мы стаім за добрымі суадносінамі са Злучанымі Штатамі, — сказаў, — і хацелі б, каб яны пераўтварыліся ў сяброўскія суадносіны.

### СЛОВЫ НОВАГА ПРЭЗІДЭНТА

Адбылася першая прэсканферэнцыя прэзідэнта Францыі Пампіду. Калі разыходзіцца аб загранічную палітыку, дык словы прэзідэнта сведчаць, што яна астанецца такой жа, як была за прэзідэнта дэ Голя. Варта падкрэсліць, што новы прэзідэнт рашуча падкрэсліў непарушнасць нашай заходняй граніцы. Выказаўся далей за эмбарга на пастаўкі зброі і самалётаў Ізраілю. Стараемся супрацоўнічаць з СССР, — сказаў Пампіду, — у многіх галінах гэта нам удаецца і з гэтага мы ўзаемна рады.

**А. К.**

 **БССР**

### КУРГАН

На 21-ым кіламетры ад Мінска ля Маскоўскай шашы насыпана Курган славы ў гонар Савецкай Арміі, якая вызваліла ў 1944 годзе Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Курган гэты насыпалі дзесяткі тысяч беларускіх людзей. Узвенчаны ён чатырма штыхамі, якія сімвалізуюць чатыры франты Арміі, што ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі.

Ва ўрачыстым адкрыцці Кургана славы прынялі ўдзел кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі: П. Машэраў, першы сакратар ЦК КПБ, У. Кісялёў, старшыня Савета Міністраў БССР, генерал-палкоўнік І. Трацяк, камандуючы войскамі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

### ЛУКАШЭВІЧ

Д. Лукашэвіч, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, апублікаваў на старонках «Звязды» артыкул «Подзвіг народа».

Пішучы аб міжнародным значэнні Беларусі Д. Лукашэвіч, між іншым, канстантуе:

«У пасляваенны перыяд Беларуская ССР выйшла на шырокую арэну міжнароднага жыцця. У 1945 годзе яна стала членам — заснавальнікам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (...) Аб удзеле нашай рэспублікі ў рабоце міжнародных органаў можна меркаваць хоць бы па тым, што ў пасляваенны перыяд дэлегацыі БССР прымалі ўдзел амаль у 500 міжнародных канферэнцыях і нарадах».

### ЛЕНІНСКУЮ

Ленінскую залу вырашана адкрыць у Дзяржаўным музеі Беларускай ССР. Яе экспазіцыя адлюструе м. ін. гістарычную ролю Леніна ў стварэнні беларускай дзяржаўнасці, гарачым абаронцам якой Ён з'яўляўся.

У ліку экспанатаў цікавы матэрыял аб дэлегатах V з'езда РСДРП у Лондане — беларускіх бальшавіцкіх братах, Д. і К. Басальга, якія сустракаліся з Леніным.

### ІЕНСКАГА

Будаўнічы атрад студэнтаў Іенскага ўніверсітэта ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы прыбыў у Мінск. Разам са студэнтамі Беларускага ўніверсітэта нямецкія сябры выехалі ў Наваполацк. Гэты інтэрнацыянальны будаўнічы атрад прымае ўдзел у работах на пляцоўцы нафтахімічнага камбіната.

Падобны атрад з Беларускага ўніверсітэта выехаў у Іену. Гэта ўжо другі такі абмен паміж нямецкім і беларускім універсітэтамі.

### ЦЫРКАВЫ

У Навагрудку існуе аматарскі цырк. Арганізаваў яго Марк Цлаў.

Гэтаму цырку першаму ў Беларусі прысвоена званне народнага.

### «ПРАМЕНЬ»

Навінкай мінскага гадзіннікавага завода «Прамень» з'яўляюцца мініяцюрныя наручныя гадзіннічкі з календаром. Дата змяняецца ў першую секунду пасля поўначы.

Незадоўга паявяцца гадзіннічкі «Прамень-1815», якія аўтаматычна накручваюцца ад руху рук. (С. Я.)




### НАСУСТРАЧ ЛІПЕНЬСКАМУ СВЯТУ

Напярэдадні Свята Адраджэння — 22 ліпеня ў тысячах прадукцыйных прадпрыемстваў працягваецца рэалізацыя юбілейных абавязацельстваў. На многіх урачыстасцях найбольш заслужаныя рабочыя і інжынеры атрымліваюць высокія дзяржаўныя адзначэнні. 12 ліпеня ў Тамашове Мазавецкім пачало працу новае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел прадстаўнікі ўлад на чале з сакратаром ЦК партыі Стэфанам Альшоўскім. Сабраныя выслалі да тав. Уладзіслава Гамулкі ліст, у якім абавязваюцца поўнасцю выканаць пастаўленыя партыяй і ўрадам заданні.

### ПЕРАД ЖНІВОМ

У гэтым годзе ў жніўных працах прыме ўдзел звыш 10 000 сельскагаспадарчых гурткоў і звыш 2500 машынатрактарных базаў. Колькасць сельскагаспадарчых машын у базах будзе на 10 працэнтаў большай, чымсьці у час мінулага жніва. Складацца на гэта будзе каля 80 тысяч машына-трактарных камплектаў, 40 тысяч снапавязалак, 45 тысяч малацілак і каля 1300 камбайнаў. Прадбачваецца, што ў гэтым годзе зараз жа пасля жніва трэба будзе прыступіць да асенняга ворыва і пасеваў, што выкліча вялікае зграмаджэнне палявых работ у пасляжніўны перыяд.

### БАГУМІЛ КАБЕЛЯ

10 ліпеня ў хірургічнай клініцы ў Гданьску памёр вядомы польскі акцёр Багуміл Кабеля, які некалькі дзём раней быў разам з жонкаю цяжка паранены ў нешчаслівым дарожным выпадку.

### ВАЯВОДСКІЯ РАДЫ НАРАДОВЫЯ

На першых сесіях новавыбраных ваяводскіх рад нарадовых выбрана ў прэзідыумы 200 асоб (на 4 менш, чымсьці ў папярэдняй кадэнцыі). 112 з іх выконвала гэтыя функцыі ў папярэдняй кадэнцыі. 148 членаў прэзідыумаў мае вышэйшую адукацыю (у папярэдняй кадэнцыі — 136), 5 ваяводскіх рад нарадовых правяло змены на пасадах старшынь прэзідыумаў, а 6 — на пасадах сакратароў прэзідыумаў.

### ЛЁТ

Расце сетка паветраных спалучэнняў нашага ЛЁТ-у. У апошнім часе Кракаў атрымаў спалучэнне з Вроцлавам і Шчэцінам, а Вроцлаў з Кашалінам. Ад нядаўна польскія самалёты прызямляюцца ў Істамбуле, які з'яўляецца 27 замежным аэрапортам ЛЁТ-у.

### СНЕГ

9 ліпеня над морам ля Шчэціна пасля цёплага дня пад вечар настаў раптам холад і пачаў падаць снег. Працягвалася гэта каля 15 мінут.

### РЭКОРД

Новая Гута б'е рэкорд у колькасці тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў на галаву насельніцтва — адзін прыёмнік выпадае тут на двух жыхароў улічваючы ў гэта дзяцей. (п)




### АДЗНАЧЭННЕ ПАЛІТЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

З выпадку 25-годдзя Народнай Польшчы Рада Дзяржавы ПНР адзначыла заслужаных палітычных дзеячаў Беласточчыны. Высокія адзначэнні атрымалі між іншым: Ордэн Штандару Працы I Класа — сакратар Ваяводскага камітэта С. Кудла, Ордэн Штандару Працы II Класа — сакратар Ваяводскага камітэта А. Младзяноўскі, I сакратар Гарадскога камітэта Ю. Трусевіч, старшыня Ваяводскай Камісіі партыйнага кантролю М. Кірылюк, Крыж Камандорскі Ордэна Адраджэння Польшчы — сакратар Ваяводскага камітэта С. Рубчэўскі, Крыж Афіцэрскі Ордэна Адраджэння Польшчы — сакратар Ваяводскага камітэта В. Мікульскі.

Многія таварышы атрымалі Крыжы Афіцэрскія і Кавалерскія Ордэна Адраджэння Польшчы, Залатыя і Сярэбраныя Крыжы Заслугі.

### БЕЛАСТОЦКІ ПЛЕНУМ ЗСЛь

Пленум Ваяводскага камітэта ЗСЛь на сваім пасяджэнні ацаніў дзейнасць партыі на вёсцы ў перадвыбарчай кампаніі. Быў падкрэслены актыўны ўдзел вёскі ў кампаніі. У апошнія чатыры гады дзейнасці ЗСЛь узнікла на вёсках 183 новыя гурткі ЗСЛь, 2216 новых членаў прыбыло. Выдатныя дзеячы ЗСЛь на ўспомненым Пленуме атрымалі высокія дзяржаўныя адзначэнні.

### ЛОДЗІНСКІ ТЭАТР НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Ён прыехаў з камедыяй М. Балуцкага «Радцы пана радцы». Даў спектаклі ў Беластоку, Гайнаўцы і Дуброве.

### ЗА ЛЮБОЎ ДА ДЗЯЦЕЙ

На пасяджэнні Акруговага праўлення ТПД у Беластоку заслужаныя ў працы з дзяцьмі дзеячы атрымалі медалі і адзначэнні.

ТПД з'яўляецца вялікім прыяцелем дзяцей. Сёлета ТПД арганізуе канікулы дзецям хворым, занядбаным, з сем'яў, якія самі не ствараюць дзецям радасных канікул. ТПД-оўская акцыя адпачынку дзецям на Беласточчыне вельмі шырокая.

### МОЛАДЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ ПЕРАДАВАЯ

У сёлеташняй «Вясне чынаў ЗМВ» моладзь Беласточчыны заняла перадавое месца ў краіне. Найлепшымі павятовымі арганізацыямі былі: беластоцкая, бельская і гайнаўская.

### ГАРЦЭРСКІ АБМЕН

Як штогод, так і ў гэтым годзе вялікія групы нашых гарцэраў і літоўскіх і беларускіх піянераў спаткаліся на граніцы, а потым перайшлі яе, каб адпачываць: нашы ў СССР, а піянеры на нашых прыгожых землях. (вл)

**ГП БГКТ з жалем паведамляе аб смерці заслужанага актывіста, былога члена ГП і Рэвізійнай камісіі Васіля Літвінчыка і выказвае глыбокае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

**Гарадскі аддзел БГКТ у Беластолу глыбока смуткуе з выпадку смерці шматгадовага члена праўлення і рэвізійнай камісіі аддзела Васіля Літвінчыка і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**




**Niedziela, 20.VII.**

9.40 Program dnia. 9.45 „Lato 1969". 10.20 „Przypominamy, radzimy". 10.40 „Ściśle tajne" — film („Stawka większa niż życie"). 11.35 „Melodie na dzień dobry". 12.00 Dziennik. 12.15 Przerwa. 13.40 Program dnia. 13.45 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 14.00 „Ojciec i syn" — film. 14.30 „Przemiany". 15.00 „Warszawa, ja i Ty". 15.30 „Wielka gra" — teleturniej. 16.25 PKF. 16.35 Pierwsze lata" — rep. film. 17.00 „Muzyka polska z Zamku w Golubiu" — muzyka polska od dawnej do współczesnej. 17.45 „Klub Sześciu Kontynentów". 18.25 „Piosenki żołnierskie". 19.05 „Wyzwolenie miasta przez I Armię WP — Chełm Lubelski" rep. film. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 — film TVP. 21.10 Statek Apollo 11 ląduje na Księżycu. Transmisja bezpośr. 21.40 „Śpiewki stare ale jare". 22.50 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 21.VII.**

6.30 Pojazd księżycowy statek Apollo 11 na powierzchni księżyca. Transmisja bezpośrednia. 15.55 Program dnia. 16.00 Dziennik. 16.20 „Poligon". 16.55 Uroczysta Sesja Sejmu z okazji Święta Odrodzenia Polski i 25-lecia PRL. Transmisja z Sali Posiedzeń Plenarnych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV: J. Janicki — „W kuźni urodzony". 21.10 „Jak rodziła się pieśń". 21.50 Dziennik. 22.10 „Światowa kariera polskiej plastyki". 22.40 „Koncert na 707 ulic" — film TVP.

**Wtorek, 22.VII.**

9.50 Program dnia. 9.55 Defilada wojskowa i parada sportowców z okazji 25-lecia PRL. Transmisja z Placu Defilad w Warszawie. 12.25 Dziennik. 12.40 „Ballada o siedmiu różnych". 13.05 „W kraju Chopina" — film TVP. 13.30 Teatr Młodego Widza: M. Szypowska — „Jutro turniej miast". 14.30 „Na Syrokim Polu" („Z Kolbergiem po kraju"). Scenariusz i reż. — W. Siemion. 15.05 Estrada Literacka: B. Drozdowski — „Moja Polska" (Nowa Poezja Polska). 15.45 Telewizyjny Ekran Młodych. 17.25 „Szansa" — rep. film. 17.55 „My-69" — teleturniej — finał. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.20 „Krzyżacy" — film fab. pol. 23.10 Kabaret Starszych Panów: „Przerwa w podróży".

**Środa, 23.VII.**

8.15 „Matematyka w szkole": „Wektory i kąty skierowane" cz. I. 10.00 „O jednego za wiele" — film argent. 11.05 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie". 18.25 „Magazyn ITP". 18.35 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Dwa starty" — program wiejski. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „O jednego za wiele" — film fab. argent. 21.10 „Światowid". 21.40 PKF. 21.50 „Łódzka panorama muzyczna". 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 24.VII.**

15.00 „Matematyka w szkole": ‚Wektory i kąty skierowane" cz. II. 16.40 Program dnia. 16.45 „Przypominamy, radzimy". 16.50 Dziennik. 17.00 TV Kurier Lubelski. 17.30 Wodowanie Statku Apollo 11 (powrót na Ziemię). Transmisja bezpośrednia. 18.30 „Muzyka na dwa fortepiany". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Dni tworzenia" — rep. film. 20.35 „BS-3815" — film fab. NRD. 22.00 Magazyn Medyczny. 22.30 Dziennik.

**Piątek, 25.VII.**

10.00 „Schody do nieba" — film fab. radz. 11.25 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Klucz do M-3". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 „Schody do nieba" — film fab. radz. 21.40 „Kontakty". 22.10 Dziennik.

**Sobota, 26.VII.**

10.00 „BS-3815" — film fab. NRD. 11.30 Przerwa. 16.15 Program dnia. 16.20 Program tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 ‚Tramp". 17.20 „Gawędy wilków morskich". 17.35 „Na jarmarku" — widowisko regionalne. 18.15 „Pegaz". 18.55 „Kuba 69" albo rok decydującego wysiłku — rep. film. z Kuby. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Rywalka' — nowela film. franc. 20.35 „Letnia piosenka" — finałowy wiczór konkursu z udziałem najlepszych wykonawców (Belgrad). 21.35 Dziennik. 21.55 Kino Interesujących Filmów: „Anatomia morderstwa" — film fab. USA.




**Piątek, 18 lipca**

8.00 Nowiny. 8.15 „Cuda przyrody". 8.30 „Dwunasta noc". Film fab. 10.00 Dla dzieci. 14.45 Program dnia. 14.50 Nowiny. 15.00 Koncert muzyki klasycznej. 15.30 Almanach turystyczny. 16.00 Koncert dziecięcego zespołu tanecznego. 16.45 „Panorama nowin". 17.00 TV barwna. 18.15 „Sztafeta nowin". 19.00 „Na ekranie cyrku". 20.00 „Plastyk i czas". Film. 21.00 Zawody hippiczne. 21.30 Nowiny.

**Sobota, 19 lipca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Reforma gospodarcza w działaniu". 9.00 Dla dzieci. 9.30 „Pionierzy". 9.40 „Szkatułka muzyczna". 10.00 Przegląd międzynarodowy. 10.20 Dni Kultury PRL. 11.00 Z historii wsi białoruskiej Jazyl. 11.30 Dni Kultury PRL. 12.00 Almanach TV 13.00 Filmy animowane dla dzieci. 13.30 TV barwna. 15.00 „Klub wiejski". 16.00 Tydzień TV polskiej. 17.00 „Stawka większa niż życie". X seria. 18.00 Nowiny. 18.15 „Człowiek opuszcza kotwicę". Film fab. 19.30 „Świat socjalizmu". 20.00 Tydzień TV polskiej. 21.15 Koncert Mołdawskiego Zespołu Muzyki Ludowej. 21.45 „Tylko fakty".

**Niedziela, 20 lipca**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Poszukiwacze". 9.30 „Dziś — Dzień Metalurga". 10.15 Nowiny. 10.30 „Godzina wiejska". 11.30 „Zamek Trokaj" (z Wilna). 12.00 Dla żołnierzy. 12.30 Film TV. 13.40 „Zofia Pierowska". Film fab. 15.30 TV barwna. 16.30 „Stawka większa niż życie". XI seria. 17.30 TV barwna. Piłka nożna. Puchar ZSRR. 20.00 „Siedem dni". 20.30 Jan Kiepura. 21.30 „Tydzień sportowy".

# ФЕСТЫН У СЕМЯНОЎЦЫ

Фота ЦАФ — СЯНЬКО



Фестын БГКТ у Семяноўцы ўганаравалі сваёй прысутнасцю прадстаўнікі партыйных, адміністрацыйных і грамадскіх устаноў Беластока і Гайнаўкі. Даклад чытае старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк.



Быў тут таксама вядомы калектыў з далёкага Гарадка. Гарадчанкі, апрача чараў над калыскай (пастаноўка «Адвечнай песні» — здымак), чаравалі таксама сваімі фальклорнымі песнямі.



Выступае харавая група Гайнаўскага (гарадскога) гуртка БГКТ.




Ёсць і мясцовыя харысты — семяноўскія гарцэры.



Адзін з удзельнікаў ужо здаўся — не вытрымаў трохгадзіннага песеннага марафону — спачыў на бацькоўскім плячы. Але бацька не думае пакідаць канцэрту.



Прыехала сюды моладзь з розных куткоў павета. Прыгожыя прычоскі, якія на дарозе патрывожыў вецер, трэба зноў прывесці ў парадак.



Гэтыя гледачы найбольш усяго цікавыя.



Добра на свежай траўцы адпачыць і пагутарыць з суседзямі.

У 25 гадавіну ўтварэння ПНР

## ПАЧАТКІ НАРОДНАЙ УЛАДЫ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

Пераможныя перадавыя бранясосныя часці, а таксама дывізіі 1 і 2 Беларускага Фронту Савецкай Арміі, магутнымі ўдарамі ўжо ў ліпені і на пачатку жніўня 1944 года вызвалілі вялікую частку Беласточчыны, а ў гэтым цэлы павет Бельск Падляшскі.

22 ліпеня былі вызвалены: Боцькі, Гайнаўка, Нарва, Сямяцічы, 23 ліпеня — Кленікі, Трасцянка ў гміне Гайнаўка, 30 ліпеня — Бельск Падляшскі, а 1 і 2 жніўня — Цехановец і Драгічын. Наступіла даўно чаканая хвіля свабоды, а разам з ёю надзеі на лепшае і спакойнае жыццё, у якім не трэба будзе баяцца, «што ноччу перад дзвярыма статнуць і прыкладамі ў дзверы застукаюць», што аблавы, пацыфікацыі, расстрэлы і экзекуцыі зноў прычыняцца да болю і матэрыяльных затрат. Хаця ў Бельскім павеце не існавала ў час гітлераўскай акупацыі Польская рабочая партыя і не было таксама яе ўзброеных атрадаў Гвардыі і Арміі Людовай, то аднак знайшліся людзі, якія зараз жа пасля вызвалення ўзяліся за арганізацыю і ўмацаванне органаў народнай улады. Гэтыя людзі, якія паходзілі пераважна з радоў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, з рэвалюцыйнай сялянскай арганізацыі «Грамада» і з класавых прафесіянальных саюзаў, прасякнутыя патрыятызмам і бязмежнай адданасцю рэвалюцыйнай ідэі, сталі да заклiку Маніфесту ПКВН і пачалі будаваць новую рэчаіснасць.

Працэс фармавання органаў народнай улады ў павеце праходзіў у спецыфічных умовах. Бельскі павет адносіўся ў міжваенны перыяд да паветаў найбольш адсталых, як у адносінах прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Гэтую адсталасць пабольшыла яшчэ акупацыя, у выніку якой узніклі вялікія знішчэнні ў гаспадарцы павета. Знішчыліся: 3 вёскі поўнасцю, 154 вёскі часткова, 4026 гаспадарак поўнасцю, 97 гаспадарак часткова, 12361 сялянская сяліба згарэла поўнасцю. Гарады былі знішчаны ў 35%, дарогі — у 60%, масты — у 70%, а таксама многа школ і іншых меншых аб'ектаў. Чыгунка была приведзена ў стан нерухомасці ў сувязі з поўным знішчэннем чыгуначнай лініі на адрэзку Бельск Падляшскі — Гайнаўка і частковым знішчэннем на адрэзку Бельск Падляшскі — Беласток. Знішчаны былі таксама адзіныя ў Гайнаўцы прамысловыя прадпрыемствы — хімічная фабрыка і дзяржаўная лесапільня. Былі таксама сур'ёзныя страты ў людзях. У выніку вайны і гітлераўскай акупацыі ўбыло з павета 45486 чалавек, а ў гэтым 19000 яўрэяў. З-за недахопу дакладных дадзеных, цяжка ўстанавіць, колькі асоб загінула, а колькі засталася на тэрыторыі БССР.

У такіх вось умовах нараджалася новая ўлада. Важным, аднак, з'яўляецца тое, што ўтваралася яна знізу і спантанна. Яшчэ не было павятовых улад, а ўжо людзі арганізавалі самаадвольна і без наказаў гмінныя рады, выбіралі солтысаў і войтаў. 11 жніўня 1944 года была выбрана гарадская рада нарадовая ў Бельску Падляшскім, а 20 жніўня 1944 года ўтварыліся гмінныя рады нарадовыя ў Белавежы, Бельску Падляшскім, Боцьках, Бранску, Цехаоўцу, Драгічыне, Гродзіску, Гайнаўцы, Кляшчэлях, Мельніку, Мілейчыцах, Нарве, Нараўцы, Орлі, Сямяцічах і Вышках.

З мэтай арганізавання народнай улады ў павеце, у першых днях жніўня 1944 года ад ПКВН прыбылі ў Бельск Падляшскі: Антоні Рошка, Міхал Джэвецкі, Раман Возняк, Мадалінскі і іншыя. Гэта яны падрыхтавалі глебу да арганізавання ўлады. 30 жніўня 1944 года адбылося першае ўрачыстае выбарчае пасяджэнне дэлегатаў, на якім была выбрана Павятовая рада нарадовая, у склад якой увайшло 18 радных. Першым старшынёю рады быў грам. Вінцэнты Германоўскі, а яго намеснікамі грам. грам. Уладзіслаў Нікса і Адальф Хаміцкі. Паколькі на сходзе гэтым не было дэлегатаў з 6 гмін, паста-

(Працяг на стар. 5.)

З праблемаў нацыянальнага школьніцтва

# ПАЧАТКОВАЕ ШКОЛЬНІЦТВА

Як мы інфармавалі, нядаўна адбылося пасяджэнне нацыянальнай камісіі ВК ПАРП. Разглядалася тут інфармацыя Кураторыі школьнай акругі адносна актуальнага стану нацыянальнага школьніцтва ў Беластоцкім ваяводстве. Трэба адзначыць, што матэрыял, які прадставіла Кураторыя, абшырны і цікавы, глыбока прадуманы. Абшырнасць матэрыялу вымушае нас пераказваць яго ў частках; сённяшняя прысвечана пачатковаму школьніцтву.

### СТРУКТУРА І АРГАНІЗАЦЫЯ ШКОЛ

Школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Беластоцкім ваяводстве арганізаванае ў 8 паветах, абяспечвае асветныя патрэбы беларусаў, літоўцаў, украінцаў і рускіх. Колькасць пачатковых школ, якія арганізуюць навучанне роднай мовы для моладзі няпольскай нацыянальнасці, складае 12,8%, школьны абавязак рэалізуе тут 20 232 дзяцей, а роднай мове навучаецца 12 841 вучань. На працягу апошніх 3-ох год назіраецца пэўнае памяншэнне колькасці школ, якія арганізуюць навучанне роднай мовы для моладзі няпольскай нацыянальнасці. Прычын гэтага стану Кураторыя дашукоўваецца перш за ўсё ў паменшаным зацікаўленні бацькоў гэтай справай. Характэрным ёсць, што гэты працэс назіраецца перш за ўсё ў беларускім школьніцтве.

### МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ЎМОВЫ

Праблемай нумар адзін нацыянальнага шкальніцтва, як зрэшты і усяго школьніцтва ў ваяводстве, з'яўляюцца адпаведныя школьныя памяшканні. Нанятыя памяшканні складаюць 21,6% агулу школьных памяшканняў у нацыянальным школьніцтве, а гэта абазначае, што крыху лепш, чым у пачатковым школьніцтве ваяводства (24,3%). Працэс замены нанятых і ўласных памяшканняў, недапасаваных да патрэб сучаснай школы, будзе доўгім. Апрача бюджэтных сродкаў на разбудову і пабудову школьных памяшканняў сцвярджаецца аграмадны грамадскі ўклад чынаў і грошай. Перадавое месца ў гэтым займае беларуская меншасць, асабліва ў Гайнаўскім, Бельскім і Беластоцкім паветах. У апошнім часе пераказана ў карыстанне 16 школьных памяшканняў пабудаваных грамадскім чынам. Асаблівай актыўнасцю выказаліся такія асяроддзі як: Сакі, Чэхі Арлянскія і Дашы з Гайнаўскага павета.

У нацыянальным школьніцтве не паднімалася проб арганізацыі класаў — кабінетаў роднай мовы. У мінулым навучальным годзе Кураторыя правяла пробу ацэнкі гэтай з'явы на тэрыторыі Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Вывады з гэтай ацэнкі наступныя:

— школы дастаткова абяспечаны эстампамі і карцінамі для вядзення розных практыкаванняў па мове і пісьме. Зразумела, патрабуе гэта адпаведнага дапасавання карцін закупленых для польскай і рускай моваў. Адчуваецца недахоп эстампаў і карцін, якія б маглі быць выкарыстаны для рэалізацыі такіх праграмных заданняў як: «Карціны з сучаснага жыцця людзей у БССР», «Карціны з культурнага і гаспадарчага жыцця людзей БССР»,

— недахоп партрэтаў некаторых відных беларускіх пісьменнікаў і вучоных,

— недахоп пласцінак з творамі беларускіх паэтаў,

— добрае абеспячэнне школ у аўдыёвізуальныя дапаможнікі (90%).

Справа падручнікаў выглядае так, што амаль выключна выдаецца іх у Польшчы, таму што яны больш прыдатныя ў навучанні і выхаванні. У сувязі з гэтым Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі апрацавала падрабязную выдавецкую праграму для выдання падручнікаў паасобных моваў. Добрым бокам гэтай праграмы ёсць і тое, што прадбачваецца выдаванне падручнікаў у малых тыражах, каб можна было імі карыстацца на працягу 3—5 год. Гэта дазволіць на частае ўдасканальванне гэтых падручнікаў.

Калі разыходзіцца аб настаўніцкую кадру, дык паводле інфармацыі Кураторыі найлепш яна выглядае ў беларускім школьніцтве. Паказчык настаўнікаў, якія маюць тут дадатковыя кваліфікацыі, складае аж 62,5%, пры сярэдняй ваяводскай 59,8%. Найгорш гэтая сітуацыя выглядае ў Сакольскім павеце (40%), а найлепш — у Бельскім (65,3%). У беларускім школьніцтве роднай мовы навучае 67 настаўнікаў з дадатковымі прафесіянальнымі кваліфікацыямі. Абеспячаюць яны 55,9% патрэб 8-класных школ, у якіх выступае беларуская мова, а ў Бельскім павеце аж 72%, патрэб.

Далейшае павышэнне прафесіянальных кваліфікацый настаўнікаў беларускай мовы будзе арганізавана ў Вышэйшай настаўніцкай школе ў Беластоку. Прапанова Кураторыі ў справе рыхтавання беларускіх філолагаў пры Факультэце русістыкі атрымала ўступнае адабрэнне Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі.

(На падставе інфармацыі КОС апрацаваў А. К.)

На уроку роднай мовы.
Фота: Ул. Паўлючук

Пачатковая школа ў Нурцы, Бельскага павета.

## Рыбалаўская СКО

Школьная каса ашчаднасці (СКО) у Рыбалах у апошнім навучальным годзе мае вялікія дасягненні ў росце членаў касы і ў росце грашовых сум. У мінулым годзе СКО налічвала толькі 22 члены. У гэтым навучальным годзе лічба ашчаджаючых асоб узрасла да 60-ці. Усе вучні рыбалаўскай школы маюць у СКО больш 12 тысяч зл.

Некаторыя з вучняў вельмі рэгулярна ўносяць свае ашчаднасці на кніжку СКО. Да такіх залічаюцца Аня Андрэеўская (мае на кніжцы 950 зл.), Антаніна Салаўянюк (мае на кніжцы 1000 зл.) і Ірэна Ігнацюк (мае на кніжцы 300 зл).

Дзякуючы СКО была арганізавана экскурсія ў Аўгустова. На тое, што СКО ў Рыбалах мае добрыя вынікі, злажыліся: міжкласнае спаборніцтва, розныя дэкларацыі, лозунгі і выкрэсы заахвочваючыя да ашчаднасці і галоўнае — добрая праца ў гэтай галіне настаўніц Ядвігі Нявінскай і Рэгіны Мінскай.

(Х. С.)

## Польска—беларускі СЛОЎНІК за 20 зл

**«Падручны польска-беларускі слоўнік» выдадзены ў Варшаве ў 1962 г., які раней каштаваў 70 зл., цяпер пасля зніжэння цаны каштуе толькі 20 зл. Аб'ёмісты (1084 стар.) слоўнік — гэта неабходная кніга ў хаце кожнага беларуса. Яго трэба неадкладна купіць.**

**Слоўнік можна дастаць у кнігарнях «Дому Кніжкі».** (бм)

## KonTraSTy

Ліпеньскі нумар, па чарзе ўжо 11-ты, грамадска-культурнага месячніка «Кантрасты» мае святочны характар. Ён прысвечаны знамянальнаму юбілею нашай дзяржавы. Артыкулы і ўспаміны, змешчаны ў гэтым нумары, даюць багаты і надта ж цікавы вобраз росту гаспадаркі Беластоцкага ваяводства і звязаных з гэтай гаспадаркай людзей. Сочым за гэтым ад першых дзён вызвалення. А вызваленне Беластока наступіла 27 ліпеня 1944 года. Пра «беластоцкую аперацыю» Чырвонай Арміі піша З. Каштыла. Ён таксама склаў каляндар вызвалення паасобных мясцовасцей Беласточчыны і ён урэшце прыпомніў чытачам героя Савецкага Саюза, капітана І-ай Арміі Войска Польскага, Уладзіслава Высоцкага, які геройскі загінуў пад Леніна. Нарадзіўся ён і вырас у Бельску.

Людзі, аўтары ўспамінаў, жыва і шчыра расказваюць пра свой лёс у гэтыя мінулыя 25 год, пра сваю працу, пра ўмовы, у якіх здабывалі адукацыю. Яны ўсе цікавыя, але перш за ўсё хацелася б звярнуць увагу чытачоў «Нівы» на гэтыя ўспаміны, якія адносяцца да Белавежы і Гайнаўкі. Пра першыя дні пасляваеннага жыцця ў Белавежы піша Г. Дацкевіч. «Паводле прыблізных дадзеных, якія ўстанавіла пакліканая ў 1944 годзе камісія, — піша ён, — у час акупацыі 314 жыхароў Белавежы было забітых, 254 чалавек было вывезеных у лагеры, 1207 эвакуіраваных, 684 яўрэяў — расстрэляных. Спалена або разбурана 300 гаспадарак... а варта ведаць, што ў 1939 годзе быў гэта пасёлак, які налічваў амаль 9 тысяч жыхароў».

Інжынер А. Зін расказвае пра тое, як стаў ён працаўніком драўлянай прамысловасці ў Гайнаўцы. Усе разам успаміны, пад супольным загалоўкам «Гэта ўжо сярэбраныя гады», даюць шматгранны вобраз людской працы, чалавечых змаганняў і паказваюць перспектывы для людзей. Іх папаўняюць артыкулы і рэпартажы пра разбудову Беластока, пра пераўтварэнне вёскі Чорная ў горад Чорная Беластоцкая і шмат іншых. Цікавая таксама апрацоўка У. Лявіцкай пра адлюстраванне Беласточчыны ў польскай літаратуры. (вр)

Чвэрць стагоддзя назад

## КОНТРУДАР ПАД КЛЯШЭЛЯМІ (2)

Генерал арміі
П. І. БАТАЎ
Двойчы герой Савецкага Саюза

Наступіла ноч на 23 ліпеня. Армейскі НП — у лесе ля ракаднай дарогі, проста супраць цэнтра аператыўнага пастраення 80-га і 105-га корпусаў. На поўдзень трымала плацдарм на Заходнім Бугу 69-я Сеўская, а ўвесь правы фланг прыкрывалі гвардзейцы 37-й і 15-я Севашская дывізія.

На НП былі Радзецкі, Ліпіс, Бескін. Мы абмеркавалі магчымасці ўзмацнення ўдара на левым флангу. У бліндаж амаль убег палкоўнік Нікіцін. Святло нафтавай лямпы цьмяна асвятляла яго твар, і, мабыць, таму ён выдаўся незвычайна бледным.

— Што здарылася?

— Перахоплена радыёгутарка камандзіра пятай танкавай дывізіі СС «Вікінг» Гала з камандзірам чацвёртай танкавай Петцалем. Гал у Высокалітоўску, Петцаль у Бельску. Рыхтуюцца ў чатыры нуль-нуль нанесці па нашых войсках сустрэчныя удары і злучыцца ў раёне Кляшчэляў.

Можна было чакаць усяго, але толькі не гэтага. Ніхто не прадбачваў, што з поўначы, ад Бельска, можа наспяваць такая пагроза. Гэта быў пралік нашай разведкі. Немцы правільна ацанілі слабасць нашага правага фланга.

Контрудар ворага меў на мэце вывесці высокалітоўскую групіроўку на злучэнне з бельскай. Каб прыспешыць рашэнне гэтага задання, генерал Гал адкрытым клерам па радыё папрасіў камандзіра 4-й нямецкай танкавай дывізіі аказаць яму дапамогу.

Армейскі камандны пункт знаходзіўся ў Кляшчэлях, значыць ён мог трапіць пад удар. Выклікаю да тэлефону Баб-кова: «Аб'явіць трывогу. Неаднакладна вывесці КП на Гайнаўку». З Радзецкім выехалі на ўзлесак, дзе стаялі змантаваныя на аўтамашыне тэлеграфныя апараты. Доўга давялося чакаць, пакуль выклічуць Ракасоўскага. Нарэшце на стужцы з'явіліся словы: «Камандуючы ля апарата». Дакладваю: «Перахоплен радыёперагавор. Праціўнік рыхтуе сустрэчныя контрудары з раёна Бельска і Высокалітоўска на Кляшчэлі. Войскі рыхтую для адбіцця танкаў праціўніка. Сіл недастаткова. Баявыя парадкі разрэджаны. Рэзерваў не маю». Ракасоўскі загадаў: «Прыміце меры да ўтрымання займаемых рубяжоў. Дапамога будзе аказана».

Толькі закончылася гэта кароткая размова, як з поўначы, поўдня і захаду пачаў нарастаць гул артылерыйскай кананады. Варожы контрудар пачаўся. З Радзецкім застаемся ў Кляшчэлях: нельга ні на мінуту трацiць сувязь з корпусамі. Першым далажыў І. І. Іваноў:

— Праціўнік атакаваў шэсцьдзесят дзевятую. Спрабуе скінуць нас з плацдарма. Дывізія абараняецца паспяхова.

Гэты напрамак мы правільна ўстанавілі як другарадны. Загад Іванову: «Рыхтуйцеся да адбіцця танкаў з поўначы, ад Бельска. Галоўная небяспека будзе там...» Звязваюся з Д. Ф. Аляксеевым. Па голасе камкора адчуваю, што ў яго горача.

— З напрамку Вялікай Турны атакуюць трыццаць пяць танкаў праціўніка з дывізіяй пяхоты пры агнявой падтрымцы двух бронецягнікоў і самаходнай артылерыі, — дакладвае камкор. — Удар наносіцца па трыста пяцьдзесят чацвёртай. Часці дывізіі адышлі на тры кіламетры, занялі кругавую абарону ў раёне населенага пункта Аўгусцінка.

Становішча ў 80-м корпусе яшчэ больш напружанае. Адбіўшы пяць контратак, 356-я дывізія і 115-я брыгада панеслі страты. Дывізіённая артылерыя не ў сілах стрымаць удар браніраванага кулака праціўніка. Да таго ж у стралковых часцях гэтага корпуса было шмат неабстрэляных салдат. На дапамогу адыходзячым часцям Барынава я кінуў дзве рэактыўныя ўстаноўкі.

Зноў дакладвае Аляксееў: «Праціўнік працягвае разгортваць наступленне на паўночны-ўсход, спрабуе акружыць 44-ю дывізію. Гвардзейцы адышлі ў раён Залесе. Занялі абарону. Адзін полк адарваўся і вядзе бой у акружэнні». Ледзь я паспеў зрабіць вывады і падказаць камкору рашэнне, на провадзе — Іваноў: «З напрамку Бельск па пят-

## Тэлевізійны фільм пра беларусаў

У чэрвені на Беласточчыне была 11-асабовая экіпа Польскай тэлевізіі з Варшавы. Яна рэалізавала тут фільм з рабочым загалоўкам «Беларусы». Фільм расказажа пра культурнае жыццё польскіх беларусаў, іх звычаі, пакажа людзей.

Экіпа працавала пад кіраўніцтвам **Маі і Рышарда Вуйцікаў**.

У сваім падарожжы па беларускіх сцежках Беласточчыны экіпа завітала ў Бельск. На вуліцы Дубічы сабраліся харысты з хора Бельскага аддзела Беларускага таварыства. Заспявалі перад тэлевізійнай камерай...



**...Заспявалі перад тэлевізійнай камерай. Справа: на першым плане Мая Вуйцік — рэжысёр фільма аб беластоцкіх беларусах.**

Фота ЦАФ — Санько

## «ВАЎКІ ЎНАЧЫ»

## У беластоцкім тэатры

Тадэуш Рытнер, які жыў у 1873—1921 гадах, з'яўляецца аўтарам некалькіх аповесцей і звыш 15-ці п'ес. Быў сынам міністра да спраў Галіцыі ва ўрадзе Аўстра-Вянгерскай імперыі, сам займаў высокую пасаду ў міністэрстве асветы гэтай імперыі.

Найчасцей пісаў па-нямецку, а пасля перакладаў свае творы на польскую мову. Сам пра сябе ён гаварыў: «Стаю між нямецкім а польскім. Гэта значыць, што ведаю і адчуваю адно і другое. Па паходжанню, па самай глыбокай схільнасці я паляк. І часта шмат лягчэй мне адлюстроўваць свае думкі на гэтай мове. Некалі аднак здараецца наадварот. Не пра адно, што я напісаў, немцы гавораць, што гэта польскае, а палякі — што нямецкае. Неаднакратна з абодвух бакоў адносяцца да мяне, як да госця...»

Прыпамінаю гэтыя выказванні вядомага драматурга і пісьменніка, бо выдаецца мне, што могуць яны адносіцца да многіх нашых «белавежцаў». Калі разыходзіцца пра самога Тадэуша Рытнера, дык ніякай бяды гэтая яго двухмоўнасць яму не прынесла. Адно лькава высока цэняць яго ў польскай і нямецкай літаратурах.

Хіба таму, што лічыцца ён адным з лепшых польскіх драматургаў, кіраўніцтва беластоцкага тэатра рашыла прыпомніць сваім гледачам адну з найбольш вартасных яго п'ес: **«Ваўкі ўначы».**

Загаловак гэты сімвалічны. «Ноч» — гэта цёмны, аднак сапраўдны бок унутранага жыцця багатага мяшчанства. На фоне гэтай «ночы» з'яўляюцца «ваўкі» — воўчыя ўчынкі, якіх дапускаюцца ўсе героі п'есы, прадстаўнікі мяшчанскага асяроддзя, а найбольш іх на сумленні пракурора, які з'яўляецца заўзятым змагаром за чысціню права і сурова яго прымяненне ў жыцці. Ён і іншыя сваіх «ваўкоў» і сваю «ноч» намагаюцца прыкрыць вонкавай адукаванасцю, інтэлігенцыяй, прыхільнасцю да сямейнай згоды і грамадскага ладу. Аднак жыццё выяўляе праўду і воўчая шкура вылазіць наверх, хаця яна прыкрыта багатым і добра пашытым касцюмам. П'еса Т. Рытнера бязлітасна раскрывае ілжывасць мяшчанскай маралі.

**В. Рудчык**



### АБ КНІЖЦЫ С. ЯНОВІЧА

У тыднёвіках краіны паявіліся першыя адгалоскі аб кніжцы нашага рэдакцыйнага калегі Сакрата Яновіча «Загоны». Кароткую рэцэнзію гэтай кніжкі змясціў тыднёвік «Наша Весь». Пры аказіі тыднёвік падае коратка біяграфічныя звесткі аб аўтару кніжкі і пераказ зместу некаторых яе твораў, звяртаючы асабліва ўвагу на аповесці «Таня» і «Ён і іншыя».

Кароткая рэцэнзія кніжкі Сакрата Яновіча паявілася таксама ў грамадска-культурным тыднёвіку «Одглосы», які выдаецца ў Лодзі. Аўтарам яе з'яўляецца вядомы польскі пісьменнік Ян Гушча. Піша ён аб «Загонах», між іншым, так:

«На кніжку таленавітага і ў многіх выпадках спелага празаіка складаецца сціслая паэтыцкая проза, дасціпная сатыра і даўжэйшыя апавяданні прысвечаны сучаснай тэматыцы... Яновіч паказвае ўласны свет, вялікую ўмеласць назірання, разнастайнасць сродкаў мастацкага выказвання. Беласточчына мае некалькіх беларускіх паэтаў, дэбют Сакрата Яновіча сведчыць аб тым, што з'явіўся ў гэтым асяроддзі і неблагі празаік».

Рэцэнзію Яна Гушчы папярэджвае ў «Одглосах» пераклад загаловачнага твора Сакрата Яновіча «Загоны».

Ацэнку Яновічавых «Загонаў» напісаную беластоцкім журналістам Лешкам Кажушкам надрукавала таксама дня 4 ліпеня «Газета Беластоцкая». Характэрнай рысай творчасці Сакрата Яновіча, на думку Кажушкі, з'яўляецца тое, што элементы паэзіі і прозы зліваюцца тут у адно і цяжка іх фармальна аддзяліць ад сябе. Іншай рысай творчасці Яновіча рэцэнзент лічыць глыбокую яе шчырасць. Як прыклад творчасці Яновіча Кажушка прыводзіць у сваім перакладзе адзін з кароткіх твораў Яновіча «Надзея». (п)

## БЕЛАВЕЖА

## ў „Аргументах"

Вядомы грамадска-культурны часопіс «Аргументы» ў нумары ад 6 ліпеня змясціў абшырную падборку твораў пісьменнікаў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» ў перакладзе вядомага перакладчыка ўсходнеславянскіх літаратур на польскую мову Ежы Літвінюка. Падборку твораў беларускіх пісьменнікаў папярэджвае інфармацыя аб аб'яднанні «Белавежа» напісаная Аляксандрам Баршчэўскім.

Найбольш месца ў падборцы займаюць творы Сакрата Яновіча: «Зладзеі і хлопчык», «Свята ў 1945-ым», «Адысея паўмяшчаніна», «Далейшае жыццё Манькі і яе смерць». Апрача таго надрукавана тут па адным творы Уладзіміра Гайдука, Алеся Свіська, Алеся Барскага, Янкі Чыквіна і Яшы Бурша. Пададзена таксама коратка біяграфічныя даведкі аб кожным з друкаваных аўтараў. (п)

наццатай і трыццаць сёмай дывізіям наносяць удар сто танкаў. Праціўнік расякае нашы баявыя парадкі. Мой камандны пункт адрэзаны ад войск».

Сто танкаў з поўначы і столькі ж з поўдня. У гэтым становішчы не заставалася нічога іншага, як сціснуць асноўныя сілы армейскай групіроўкі да цэнтра, пакінуць часць занятай тэрыторыі, скараціць лінію фронту і заняць кругавую абарону. Вельмі мала часу, каб аддаць гэты загад войскам. Вырашаем перадаваць адкрытым тэкстам па радыё, маскуючы вызначаныя рубяжы абароны аднымі лічбамі кадзіраванай карты. Каб не траціць каштоўныя мінуты, загадваю настроіць рацыі ўсіх корпусаў на адну хвалю. Загад атрымліваюць усе камкоры адначасова. Іваноў тут жа дакладвае, што страціў сувязь з 69-й. Гэтай дывізіі неабходна было паставіць заданне: пакінуць плацдарм на Заходнім Бугу і выйсці на дапамогу кіраванню корпуса. Але як паведаміць аб гэтым? Побач са мною стаяў штабны афіцэр палкоўнік Рондараў.

— Дазвольце праравацца на матацыклу.

Моцна пацiснуў Рондараву руку:

— Спяшы, але будзь асцярожны.

Ён памчаўся на матацыклу да Заходняга Буга. Яму ўдалося праскочыць па незанятых праціўнікам дарогах да каманднага пункта 69-й і перадаць загад.

Каля поўдня стала ясна, што паўночнай і паўднёвай нямецкім групіроўкам удасца злучыцца. Аператыўнай групе камандарма пара адыходзіць да Гайнаўкі, каб адтуль арганізаваць удар па прарваўшамуся ворагу. Шум бою наблізіўся. Але трэба яшчэ далажыць становішча Ракасоўскаму. Разам з Мікалаем Антонавічам заскочылі ў машыны да тэлеграфістаў. Ракасоўскі адказаў хутка. Дакладваю: «Праціўнік наносіць сустрэчны контрудар з двух напрамкаў на Кляшчэлі. Штаб арміі адведзены ў Гайнаўку. Сам з аператыўнай групай знаходжуся і кірую боем на...»

Даклад закончыць не ўдалося. Мікалай Антонавіч спыніў:

— Немцы!

Праз адчыненыя дзверы аўтобуса было відаць, як у метрах трохсот сярод высокага жыта з'явілася вежа нямецкага танка. Ствол пушкі развярнуўся ў наш бок, і ў тую ж мінуту раздаўся моцны ўзрыў. Першы снарад праціўнік паслаў у дрэнна замаскіраваны грузавік, на якім быў змантаваны рухавічок тэлеграфнай устаноўкі.

— Усе за мною!

Кідаемся ў жыта, дзе ля дарогі былі замаскіраваны нашы «вілісы». Ззаду другі ўзрыў. Тэлеграфная ўстаноўка загарэлася. На шчасце, тэлеграфісты паспелі выбегчы і былі разам з намі. «Вілісы» памчаліся ўздоўж жыта на Гайнаўку, праскочылі даслоўна ў некалькі дзесятках метраў ад баявых парадкаў нямецкай танкавай часці. Выратавала густое жыта.

Расказвалі, што камандуючы фронтам быў вельмі занепакоены раптоўным спыненнем перагавораў і запытваў па радыё: «Дзе Батаў?» Не атрымаўшы адказу, выслаў у разведку эскадрыллю знішчальнікаў. Мы бачылі самалёты, лятаўшыя над раёнамі Кляшчэляў і Чаромухі, але лётчыкі нашых машын не выявілі. Знайшоўся сярод іх жартаўнік: ён далажыў з борту самалёта па радыё свайму непасрэднаму начальніку, што бачыў па дарозе ад Кляшчэляў на Гайнаўку... рассыпаныя ваенгадляўскія талеркі.

Вечарам дабраліся да свайго каманднага пункта. Неўзабаве прыбыў К. К. Ракасоўскі.

— Дакладвай сваё рашэнне.

План ліквідацыі нямецкага прарыву быў ужо прадуманы. Сіламі двух падыйшоўшых батальёнаў армейскага запаснога палка і аддзельных часцей 18-га корпуса пры агнявой падтрымцы дывізіёнаў гвардзейскіх мінамётаў вырашана нанесці ўдар на Кляшчэлі з боку Гайнаўкі. Адначасова корпус Аляксеева наступае з поўдня.

— Рашэнне правільнае, ды сіл малавата. А трэба не толькі аднавіць жывую сувязь з корпусамі, але абавязкова зноў захапіць плацдарм за Бугам. Дапаможам.

## ПАЧАТКІ НАРОДНАЙ УЛАДЫ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

(Працяг са стар. 3)

ноўлена было даакаптаваць іх на найбліжэйшай сесіі, што было зроблена ўжо 7 кастрычніка 1944 г. 20 верасня паклікана ГРН у Клюковічах, а 28 верасня гарадскую раду ў Сямяцічах. Гэтым закончыўся працэс фармавання рад нарадовых у павеце як органаў народнай улады. Адначасова з арганізацыяй улад узнікаюць установы і прадпрыемствы, а таксама грамадска-палітычныя арганізацыі. На чале Павятовага старо ства стаў Міхал Джэвецкі, які функцыю павятовага старасты выконваў да 12 снежня 1944 года. Ад таго часу да 1948 г. уключна старастаю быў Раман Возняк.

Паступова ўзнікалі таксама іншыя ўстановы і прадпрыемствы, якія былі патрэбны да запэўнення функцыянiравання палітычнага і гаспадарчага жыцця ў павеце. Павятовы камітэт ПНР арганізаваўся 5 лістапада 1944 года. У склад першага Павятовага камітэта ўвайшло 8 таварышаў: Васіль Васілюк, Яфім Парфенюк, Мікалай Парфенюк, Васіль Ціханюк, Тэодар Грабаж, Мар'ян Асалінскі, Галіна Маслінская і Аляксандр Марчук. Першым сакратаром быў выбраны Васіль Васілюк — былы дзеяч КПЗБ, былы дэпутат у Вярхоўны Савет БССР у 1940 годзе.

Была паклікана Павятовая камэнда Грамадзянскай міліцыі, а першым яе камендантам быў падпаручнік Барташ, а пасля яго — Рыгор Данілюк.

Кіраўніком Павятовай Бяспекі быў пар. Петрас.

Загадам Галоўнага Камандуючага Войска Польскага № 7 ад 18 жніўня 1944 г. паклікана была Раённая Камэнда Дапаўнення (RKU), якая ахоплівала тэрыторыю Бельскага і Высока Мазавецкага паветаў. Першым камендантам РКУ быў падпар. Станіслаў Бліхарскі. На працягу жніўня і верасня гэтага ж года арганізавана: школьны інспектарат, павятовае земскае ведамства, фінансавы аддзел, акруговы паштова-тэлеграфны аддзел, бельскае надлясніцтва і гарадскі суд. У лістападзе і снежні 1944 г. арганізаваліся далейшыя ўстановы, як: Саюз польскага гарцэрства, ПЦК, спулдзельні і гд. Да канца 1944 года закончыўся ў асноўным перыяд арганізавання органаў улады і ўстаноў.

У перыяд ад вызвалення да канца 1945 года намаганнем людзей працы і дзякуючы энергічнаму кіраўніцтву партыі а таксама народнай уладзе, лечачы раны, якія нанесла акупацыя гаспадарцы павета, пабудавана 11 мастоў, разам даўжынёю ў 315 пагонных метраў, наладжана 37 мастоў, разам даўжынёю ў 1107 пагонных метраў, пабудавана 1958 $м^2$ дарог з цвёрдай наверхняй, наладжана 61025 $м^2$ дарог, насыпана гравіем 381 км маставых, наладжана 106609 м абочын, выкапана 27364 пагонных метраў прыдарожных равоў, пабудавана 5 школ, а 5 адрамантавана, прыведзена ў рух радыёвузел у Бельску Падляшскім, фабрыку цэментавых вырабаў, 4 электрастанцыі, 113 розных фабрык, у гэтым хімічную фабрыку і лесапільню ў Гайнаўцы, 3 алейні, 3 кафлярні, 1 цагельню, 28 паравых і электрычных млыноў, 6 лесапільняў, 30 пякарняў, 9 сталовых, 3 заводы газіраванай вады, 38 спулдзельчых магазінаў, 308 рамесных майстэрняў, 1 лазню ў Бельску, 1 кіно і 2 бальніцы пасля рамонту, арганізавана і абсталявана 8 амбулаторый у гмінах, 24 адзінкі добраахвотніцкіх пажарных каманд, 6 чытальняў і 20 святліц.

Быў гэта дадатны баланс, значны, які сведчыў аб вялікім энтузіязме і энергіі стваральных людзей розных асяроддзяў і спецыяльнасцей. Побач з гэтым ёсць таксама смутны і адмоўны баланс, баланс, які ў сухіх лічбах і сцвярджэннях закрыў 1945 год трагедыяй, якой віноўнікамі былі бандыты з-пад знаку НСЗ. Гэты баланс — гэта некалькі дзесяткаў забітых добрасумленных і верных людзей, многа спаленых сяліб, знішчаных аб'ектаў і збудаванняў. Шмат непатрэбных затрат і цярпенняў.

**Вітальд Стадулка**

Апрацавана на падставе архіўных актаў, якія знаходзяцца ў Дзяржаўным павятовым архіве ў Бельску Падляшскім.

 

# ЭЛЕКТРОНІКА І ГАМЕР

Ужо некалькі стагоддзяў адна старая спрэчка падзяляла вучоных - філолагаў, якія займаюцца праблемамі антычнай літаратуры, на два лагеры: адны лічаць, што аўтарства і «Іліяды» і «Адысеі» належыць аднаму чалавеку — Гамеру. Іх праціўнікі сцвярджаюць, што гэтыя два класічныя помнікі старажытнагрэчаскай літаратуры напісаны двума, а магчыма нават некалькімі рознымі аўтарамі. Напрыклад, на працягу апошняга паўстагоддзя сярод многіх амерыканскіх тэкстолагаў пашырылася думка, што ў стварэнні гэтых паэм прымала ўдзел прынамсі шэсць чалавек.

Англійская газета «Сандзі таймс» сцвярджае, што цяпер гэта спрэчка, відаць, канчаткова вырашана. Спецыяліст па электроннай тэхніцы А. Мортан і прафесар вылічальных навук С. Майкельсан разам з філолагам з Кембрыджскага універсітэта Д. Чэдвігам, прыхільнікам тэорыі адзінага аўтарства Гамера, падвергнулі тэкст паэм аналізу з дапамогай электроннавылічальнай машыны «Атлас».

Гэты аналіз працягваўся год. Даследванню было падвергнута 250 тысяч слоў. Спачатку А. Мортан і С. Майкельсан адабралі першыя 300 слоў з 15-й кнігі «Адысеі», якія, на думку Д. Чэдвіга, найбольш неаспрэчна належаць самому Гамеру, а затым правялі іх параўнанне з усімі няпэўнымі ўрыўкамі, якія ёсць у іншых кнігах паэмы. На падставе аналізу даўжыні сказаў і іх структур, праведзенага з дапамогай вылічальнай машыны, была выяўлена здзіўляючая дапасаванасць і паслядоўнасць стылю на працягу ўсяго тэксту паэм Гамера, што, на думку даследчыкаў, робіць «статыстычна немагчымым» сумеснае аўтарства некалькіх чалавек. Праведзены аналіз паказаў таксама, што нават калі Гамер і выкарыстаў вялікую колькасць міфалагічнага матэрыялу, які перадаваўся з пакаленняў, ён ніколі не прыводзіў гэты матэрыял непасрэдна, а заўсёды творча перапрацоўваў яго.

Адным з канчатковых вынікаў праведзенага тэксталагічнага аналізу паэм Гамера з'явілася складанне поўнага алфавітнага ўказальніка слоў, што сустракаюцца ў іх. Такі алфавітны ўказальнік, які мае каля 250 тысяч розных слоў, быў складзен з дапамогай ЭВМ «Атлас» на працягу ўсяго 30 секунд (без выкарыстання ЭВМ для выканання гэтай жа задачы спатрэбіўся б год).

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...у дадзены час у Польшчы працуе каля 300 вялікіх прамысловых прадпрыемстваў, поўнасцю або часткова аснашчаных савецкім абсталяваннем.

... цяпер Польшча экспартуе ў СССР куды больш машын, чым імпартуе з Савецкага Саюза.

... удзельная вага польскіх паставак па знешнегандлёвым абароце СССР хутка наблізіцца да 10 працэнтаў (трэцяе месца пасля ГДР і Чэхаславакіі).




## ПАБУДОВЫ 25-ГОДДЗЯ



**НОВА ГУТА**

**Фрагмент камбіната імя Леніна.**

◆



**ТАРНАБЖЭГ**

**Серавы камбінат.**

◆



**ТУРУЎ**

**Агульны від электрастанцыі.**

◆



**ФАСТЫ**

**Фрагмент тэкстыльнага камбіната.**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### РАЗГАНЯЦЬ ТУМАН ГУКАМ?

Няма патрэбы расказваць, колькі небяспек падпільноўвае карабель, калі ён ідзе ў тумане. Для барацьбы з ім прапануюцца розныя дасціпныя рашэнні. Польскія інжынеры прапанавалі, напрыклад, разганяць туман з дапамогай гуку. Праўда, чалавечае вуха гэтыя гукі не чуе, бо маецца на ўвазе ультрагук. Менавіта ультрагукі выпраменьвае ўстаноўленае на носе карабля прыстасаванне. Аднак, гэты «нячутны» гук, як паказалі выпрабаванні, выдатна спраўляецца са сваёй задачай: туман перад караблём рассейваецца на некалькі сотцень метраў. Гэта зусім дастаткова для бяспечнага руху судна.

## ПЕКАР ПРЫРОДА

### РАМОНКІ

Служаць не толькі для ўпрыгожвання пакояў і сплятання вянкоў. Кветкі рамонак утрымліваюць 0,8 працэнта эфірнага масла сіняга колеру, у склад якога ўваходзяць хамазулен і іншыя сесквітэрпены і кіслоты. Хамазулен — моцнае процізапаленчае, абязбольваючае і дэзінфектуючае рэчыва. Акрамя таго, у рамонках утрымліваюцца яшчэ флаванід, апін і гліказід герніарын, які валодае спазмалітычным уздзеяннем. Рамонкавы адвар ужываюць унутр пры спазмах кішэчніка, метэарызме, у пасляродавы перыяд, даюць піць маленькім дзецям для ачышчэння страўніка. Гэты ж адвар ужываюць таксама як і процізапаленчы і антысептычны сродак для паласканняў, прымочак і ваннаў.

## КУЛІНАРЫЯ

### МОЛАТАЯ СВІНІНА, ЗАПЕЧАНАЯ З БУЛЬБАЙ

Мякаць свініны прапусціць праз мясарубку, дадаць соль, ваду (10% да вагі мяса) і старанна перамяшаць. З фаршу зрабіць ляпёшкі (па адной на порцыю) і разам з сырой нашаткаванай рэпчатай цыбуляй смажыць да гатоўнасці.

На патэльню пакласці смажаную рэпчатую цыбулю, на яе — ляпёшку са свініны, вакол — кавалачкі варанай або смажанай бульбы. Заліць чырвоным або смятанным соусам, пасыпаць тоўчанымі сухарамі, змяшанымі з цёртым сырам, паліць гарачай смятанай і запякаць.

На 400 г свініны — 1/4 шклянкі вады, 2 ст. лыжкі свіного тлушчу, 1/2 шклянкі смятаны, цыбуліна, 600 г. бульбы, 400 г. соусу, сыр, сухары.

### СВЕЖЫ ПІРОГ

Каб свежы пірог, прыгатаваны з сухога пясочнага цеста, пры наразанні не крышыўся, яго трэба рэзаць нагрэтым нажом, а з больш мяккага цеста — нажом, змочаным у халоднай вадзе.




### НА ВАСТРЫІ НАЖА

Знешне жыццё прафесара Клумава і цэлай групы яго памочнікаў: урачоў, медсясцёр — усіх, каму давяраў ён і хто давяраў яму, нічым асабліва не магло насцярожыць. Праўда, горды і незалежны выгляд прафесара раздражняў акупантаў і іх прыхваснях. Ярашэвіч, як пантэра, сачыла за кожным яго словам, позіркам, рухам, гатовая кожную мінуту накінуць пятлю на шыю.

Але вакол, побач былі свае, аберагалі, як маглі, адзін аднаго, і ў першую чаргу прафесара, памагалі, папярэджвалі.

Толькі не заўсёды гэта ўдавалася. Першай ахвярай стаў сябар Клумава, загадчык кафедры фізікі Мінскага медыцынскага інстытута Уладзімір Анісімаў.

... Па вечарах, калі ў пакоі Зубарава збіраліся госці і адтуль несліся гукі патэфона, калі прэферансісты канчалі распісваць «пульку», у тым жа будынку, у лабараторыі, дзе рамантаваліся медыцынскія апараты, два немаладыя прафесары схіляліся над прыёмнікам. Прыглушаны трэск атмасферных перашкод — і голас далёкай роднай Масквы: «Ад Савецкага Інфармбюро! У апошні час!» Адзін прафесар не адрываўся ад ручак прыёмніка, каб выпадкова не прарваўся мацней гук, другі — пісаў, пісаў. (Памятаеце маленькія скруткачкі папяроснай паперы са зводкамі?)

Клумаў і Анісімаў. У цэнтры горада, пад бокам у СД і гестапа, сабралі яны радыёпрыёмнік і слухалі Маскву.

Ён быў вельмі добры чалавек, прафесар - фізік Уладзімір Анісімаў. Добры, мяккі, майстар на ўсе рукі, але з «жыцейскага» пункту гледжання нейкі непрыстасаваны і нават бездапаможны. Клумаў сустрэў яго на вуліцы ў першыя месяцы вайны — Анісімаў галадаваў, але не хацеў аддаваць свае веды фізіка ворагу. Яўген Уладзіміравіч прапанаваў Анісімаву перайсці жыць у бальніцу, заняцца рамонтам медыцынскіх прыбораў, дабіўся спецыяльнага дазволу аддзела аховы здароўя «на аднаразовае харчаванне Анісімаву за кошт бальніцы» (афіцыйны загад пасля вайны знайшлі ў архівах — дазвол на міску баланды прафесару!) Клумаў па-братэрску дзяліўся з ім кавалкам хлеба, і, пэўна, сакрэтаў у падпольнай дзейнасці паміж сябрамі не было. Бо першы нумар падпольнай «Звязды», які спецыяльна для Клумава прынеслі ў бальніцу, хутка апынуўся ў руках Анісімава. Ён прынёс газету сваім бацькам, што жылі на Першамайскай вуліцы, чытаў ім, радаваўся кожнаму слову...

Так і невядома дасюль: ці хто выдаў Анісімава, ці гэта выпадковасць. Але гестапа заспела яго ў лабараторыі ў тую хвіліну, калі толькі - толькі прагучаў голас Левітана: «У апошні час...» На шчасце, Клумаў быў на тэрміновай аперацыі.

Пасля вайны да жонкі Анісімава прыходзіў чалавек, які сядзеў у адной з ім камеры. Ён сказаў:

— Ваш муж вытрываў усё. Катаванні, здзекі, цяжкую інфекцыйную хваробу. Яго давялі да стану поўнай душэўнай дэпрэсіі. Але ён нікога не выдаў, нічога не расказаў.

І не прасіў літасці. Хаця можна сабе ўявіць: варта было яму, прафесару, стаць на калені, згадзіцца служыць Германіі, як вароты турмы расчыніліся б перад ім у тую ж хвіліну.

Ён не быў героем. Ён няшмат паспеў зрабіць. Але і яго імя варта ведаць людзям. Гэта імя патрыёта і адной са шматлікіх ахвяр вайны.

Арыштавалі Анісімава. Хмары ўсё гусцей і гусцей збіраліся над галавою самога Клумава...

* ❊ *

...Ішла аперацыя. Пэўна, складаная, калі запрасілі Клумава, — значыць, выпадак быў асабліва цяжкі. Прафесар схіліўся над хворай, зрабіў некалькі першых надрэзаў — і раптам у аперацыйную, насуперак усім правілам, увайшла Галіна Мікалеўна.

— Жэня, у нас вобыск!

Ні на хвіліну не ўзняў галавы, сказаў толькі ціха і цвёрда:

— Прашу выйсці адсюль.

— У нас гестапа, Жэнечка!

— Яшчэ раз прашу. Хто дазволіў увайсці староннім?

Аперацыйная сястра ўзяла жонку прафесара пад руку ,далікатна, але настойліва, павяла яе да дзвярэй, і калі ўсхваляваная жанчына стаяла ўжо на парозе, Яўген Уладзіміравіч сказаў зусім іншым тонам:

— Не хвалюйся. Усё будзе добра. Я гэтага чакаў...

І сапраўды, ён гэтага чакаў. Можа



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАРОДНЫ ГАНЧАР

Больш за 40 гадоў жыхар Кляшчэляў (Гайнаўскі павет) Леан Саласцюкевіч, займаецца вырабамі гліняных збаноў, гаршкоў, вазоннікаў, флаконаў, «шабасовак» і гд. Робіць ён іх добра, па-майстэрску. Служаць яны доўга людзям, бо добра выпаленыя, трывалыя.

Вырабы самароднага артысты ўпрыгожваюць кватэры гарадскіх жыхароў. Ахвотна амаль усе вырабы Леана Саласцюкевіча скупляе беластоцкая «Цэпэлія», якая высылае іх потым за граніцу на экспарт.

Л. Саласцюкевіч працуе пры вырабе керамічнай пасуды цэлы год. Гліну прывозіць аж з суседняга Сямяціцкага павета. А потым выпальваючы ўсялякага роду пасуду адпаведна надае ёй колер. Для гэтага патрэбны яму толькі смалістыя дровы.

Леан Саласцюкевіч — гэта адзіны народны ганчар у сваёй акрузе.

**Ц. Я.**
Кляшчэлі



**Леан Саласцюкевіч і яго вырабы.**

## У БЕЛЬСКІМ БУФЕЦЕ БРУДНА

У Бельску Падляшскім ёсць на вакзале буфет, які служыць пасажырам. Давялося мне нядаўна зайсці ў буфет. Чаго там толькі не было: поўна папяросных акуркаў, этыкетак ад бутэлек па піве ці аранжадзе, паперкаў. П'яныя кліенты спяваюць, як ў карчме, а недапітае піва выліваюць проста пад ногі. Як зайсці сюды і перакусіць? На маю думку, адпаведныя ўлады павінны зацікавіцца гэтым буфетам і навесці належны парадак.

Справа гігіены ў дзяржаўных гандлёвых пляцоўках не павінна быць нікому справай абыякавай.

**Я. Цянка**
Бельск Падляшскі

## КЛУБ «РУХУ» Ў СТАРЫМ БЕРАЗОВЕ

Аб клубе «Руху» ў Старым Беразове (Гайнаўскі павет) шмат пісалася. Пісала аб ім і «Ніва».

Клуб заняў першае месца ў спаборніцтве на найлепшы клуб у катэгорыі вёсак неграмадскіх.

Клуб выходзіў у сваёй працы з цікавымі ініцыятывамі і замысламі.

Яго душой з'яўляецца кіраўнічка клуба Надзя Трэшчотка. Клуб арганізуе вечарыны, цікавыя сустрэчы з людзьмі, ветэранамі партызанскіх баёў, салдатамі Людовага Войска Польскага, салдатамі Савецкай Арміі, прадстаўнікамі павятовых і мясцовых улад, з лекарамі, аграномамі і гд.

Клуб мае шмат часопісаў, адаптар і вялікі выбар грампласцінак, цікавыя ігры, шашкі, шахматы. Апошнім часам моладзь са Старога Беразова купіла магнітафон. Грошы ўзяла з той сумы, якая прыпала клубу як узнагарода за добрую працу. Магнітафон служыць усім. Кожны дзень збіраюцца тут і дарослыя і моладзь. Паслухаць запісаных на магнітафонную плёнку сучасных мелодый, а перш за ўсё сваіх уласных галасоў, сапраўды цікава!

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву на вёсцы. Маю 22 гады. Была я замужам, але ад пару год мы не жывем з мужам. Хацела б падаць на развод, але баюся вялікіх коштаў, не ведаю, дзе звярнуцца ў гэтай справе. Зямлі маю пяць гектараў.

Прашу цябе, Сэрцайка, паінфармуй мяне ў гэтай справе, буду вельмі ўдзячна табе за параду.

**Марыся**
з Гайнаўшчыны

Марыся! У вашай справе мы звярнуліся да праўніка. А вось які атрымалі адказ:

Кошты за развод ад 300—3000 зл. вызначае суд, залежна ад маёмаснай сітуацыі.

Калі гаспадарка слабая, можна ўзяць пасведчанне з грамадскай рады нарадовай і прасіць суд звольніць ад коштаў.

**Сэрцайка**

## ВЫЗВАЛЕННЕ

На дварэ стаяў ліпень. Была цёплая, сонечная пагода. Запах цвітучых ліп заліваў цэлую вёску з канца ў канец. Праз вёску цягнуліся калоны адступаючых фашыстаў. За рэчкай Нарвай чуваць было магутнейшы гук, які часам пераходзіў у аднастайны гул. За вёскаю зніклі цямецкія гарматы, якія стаялі шнурам на ўзгорку. Пасля не стала аніводнага фашыста ў вёсцы. Было ціха і спакойна. Пасля з-за Назаркавай хаты ўбачылі людзі, як з Лукі ідзе праз выган да рэчкі пяць савецкіх салдат - разведчыкаў. Убачыўшы людзей, салдаты пачалі крычаць і распытваць, як тут перайсці рэчку. Раптам загудзеў матор, і самаход немцаў з вёскі паімчаўся да мосту. Праз хвіліну пачуўся страшэнны гук, скалыхнулася зямля і мост вылецеў у паветра, а фашысты ад'ехалі назад. З акопаў паўставалі разведчыкі (яны, убачыўшы немцаў, пахаваліся) і рушылі праз рэчку ў Бандары. Зараз за імі цягнулася доўгая калона танкаў, самаходаў і пяхота. Вёску хутка абляцела гэтая вестка і ўсе выйшлі сустракаць савецкіх салдат. Маладыя дзяўчаты і старэйшыя сустракалі савецкія войскі з кветкамі, малаком, хлебам і са слязьмі ад радасці. Распытвалі салдат, ці больш не прыйдуць сюды нямецкія фашысты. Тыя зноў з усмешкай на твары адказвалі, што не прыдуць ужо больш тітлераўцы, таму, што наша «Катюша» не пусціць іх на сваю зямлю. Кацюша — гэта ж імя дзяўчыны, дапытваліся людзі. «Вось якая яна», паказаў рукой адзін салдат на машыну. Пасля такой сустрэчы людзі спакойна разышліся жыць па хатах, а салдаты магутным крокам пайшлі на Берлін.

Так выглядала вызваленне Бандароў у ліпені 1944 года. Гэты дзень доўга будзе ў памяці нашых сялян.

**М. Лаўрэшук**
Беластоцкі павет

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Мы, жыхары вёскі Чэхі Арлянскія, што ў Гайнаўскім павеце, запрашаем прадстаўніка «Нівы», каб прыехаў да нас і каб пазнаёміўся з вельмі таленавітым чалавекам, Мікалаем Корхам і каб напісаў шырока аб ім. Справа ў тым, што Мікалай Корх мае, як кажуць, «залатыя рукі» і займаецца разьбой па дрэве.

Цяпер зрабіў ён бюст Леніна, які вельмі прыгожа выглядае. Людзі нашай вёскі задумоўваюцца, як гэта чалавек, закончыўшы толькі пачатковую школу і не вучыўшыся рамяства ў разьбе, патрапіць так прыгожа выконваць падобныя работы.

Мікалая Корха наша грамадскасць выбрала радным ГРН у Дубічах Царкоўных.

**Жыхары вёскі**
Чэхі Арлянскія

## СЛЕДАМ НАШЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ

4 мая 1969 года ў «Трыбуне чытачоў» на 7 старонцы «Нівы» быў надрукаваны артыкул нашага карэспандэнта пад загалоўкам «Як працуе агранам Германюк». У гэтым артыкуле карэспандэнт крытыкаваў недахопы ў працы агранома ў вёсцы Белкі. У сувязі з гэтай публікацыяй Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы паінфармавала нас, што быў праведзены кантроль дзейнасці агранома Уладзіміра Германюка і выяўлена шмат недахопаў у яго працы. «Успомненыя недахопы будуць ліквідаваны ў гэтым годзе», — гаворыцца ў пісьме.

Далей тут жа сцвярджаецца, што «паводле таго, хто вёў кантроль, карэспандэнт меў рацыю, але ён адначасова кіраваўся злараднасцю ў адносінах да агранома, таму што праўдападобна паміж іх сем'ямі існуюць непаразуменні».

Ёсць тут нейкая нелагічнасць. І не трэба баяцца праўды, нават калі яна напісана і са злосцю.

«чакаў» — не зусім тое слова, але надта вялікай неспадзяванкі ў «візіце» гестапа для прафесара не было. Учора яму паклалі на стол кнігу. Прафесар пагартаў яе і ўбачыў запіску: «Яўген Уладзіміравіч, прашу падрыхтаваць для партызан...» — і далей ішоў цэлы спіс медыкаментаў. Ні на хвіліну не сумняваўся, што гэта правакацыя. Хто паклаў запіску? Зубараў? Белікава? Ярашэвіч? Кожны з іх мог зрабіць гэта, і разлік тут быў просты, прымітыўны нават, але па-свойму — хітра задуманы. Не знайшоў бы прафесар запіску, не знішчыў бы яе — і вось, калі ласка, фармальная прычына для арышту. Для гестапа была б толькі зачэпка, а там — допыты, катаванні, і язык, маўляў, рана ці позна развяжацца. І тое сказаць: калі б крыху раней, месяц-два назад, пакуль яшчэ не ўсе падпольшчыкі, не ўсе сувязныя засвоілі азы канспірацыі і гэтакія запіскі з імёнамі і прозвішчамі прыходзілі нават з лесу, ён, прафесар, мог бы паверыць і сапраўды пакласці «ва ўмоўленае месца» ўсё, што ў яго прасілі. Было б яшчэ горш...

Скончыў аперацыю, падняўся ў свой пакой. Адчыніў дзверы, стаў на парозе, хвіліну - другую глядзеў на «мамаева пабоішча», потым падышоў да жонкі, пагладзіў яе па галаве, і лёгенька пасадзіў на крэсла. Сам сеў побач. Так яны і сядзелі моўчкі, стары прафесар і яго жонка, яго верная, добрая Галіна Мікалаеўна, сядзелі доўга, пакуль гестапаўскі афіцэр пераглядаў кнігу за кнігай, дакумент за дакументам.

Афіцэр, нарэшце, перагледзеў усе кнігі і дакументы — больш яго нічога не цікавіла, ён, зусім пэўна, шукаў запіску — папрасіў прабачэння і пайшоў. Можа на гэты раз навальніца прайшла міма?

...Праз некаторы час Клумава арыштавалі. І хутка выпусцілі. «За адсутнасцю ўлік»... Арыштавалі другі раз. І зноў выпусцілі.

З кожнага атрада, ад кожнай падпольнай групы ў тыя дні яму прапаноўвалі:

— Яўген Уладзіміравіч, вам трэба ў атрад. Вам тут небяспечна. Трэба пакінуць горад...

— Не магу. Я тут — на сваім пасту. Я тут патрэбен.

І ўжо апошні раз, калі за бальніцай цікавалі днём і ноччу, — у апошні раз, пасля другога арышту, — сказаў:

— А цяпер позна. Калі я пайду, загінуць многія.

Таварыш Самарын. Пра яго мы яшчэ будзем успамінаць, і не адзін раз, на гэтых старонках. І пра апошні яго шлях вам раскажам.

**Працяг будзе**

## НАД РЭЧКАЙ НАРАЎКАЙ



Фота Янка Цялушэцкі

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Н І В У"**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 22—23. „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 24—25. „Krzyżacy" (polski), 26—27.

**Нараўка**
„Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 23—27.

**Нарва**
„Wieczny kalendarz" (bułg.), 23—27.

**Чыжы**
„Falstaff" (hiszpański), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**
„Szyfry" (polski), 23—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Ostatni po Bogu" (polski), 23—27.

**Орля**
„Wilcze echa" (polski) 23—27.

**Райск**
„Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 23—27.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Ludzie w hotelu" (franc.), „Ruchome piaski" (polski), 22—25.

**Міхалова**
„Przygody Wernera Kolta" (NRD), 22—23. ,Walizka z milionami" (franc.) 24—25. „Rzeczypospolita babska" (polski), 26—27.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Awantura o Basię" (polski), 22—23. „Manewry Dniepr" (radz.), 24—25. „Siedem razy kobieta" (włoski), 26—27.

**Шудзялава**
„Jak się pozbyć Helenki" (czeski), 23—27.

**Янаў**
„Zabawa w masakrę" (franc.), 23—27.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Mam tu swój dom" (radz.), 22—23. „Start" (belg.), 24—25. ,Morderca na zawołanie" (NRD), 26—27.

**Мельнік**
,Tysięczne okno" (franc.) 22—23. „Kozacy" (radz.), 24—25. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 26—27.

**Мілейчыцы**
„Aby kwitło życie" (polski), 22—23. „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.) 24—25. „Molo" (polski), 26—27.

### ДУБРОЙСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Ubranie prawie nowe" (polski), 26—27.

**Ліпск**
„Wspaniałe wakacje" (rumuński), 26—27.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianegc pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6892

# РАЗМОВА

Я прагульваўся па беразе ракі, калі раптам у некалькі метрах ад мяне з вады паказаўся нейкі тып і нямым голасам пачаў маліць аб дапамозе. Я скінуў пінжак, але ў той жа міг авалодаў сабой.

— А хто вы такі? — спытаў я, уважліва прыглядаючыся да тапельца.

— Як гэта — хто? Чалавек!

Ён пачаў захлёбвацца.

— Прашу крыху дакладней. Радавы? Высокапастаўлены?

— Які там да д'ябла высокапастаўлены! — Ён пусціў некалькі бурбалак носам. — Усяго толькі старшы рэферэнт.

— Перспектыва на павышэнне ёсць? — працягваў дапытваць я.

— Мізэрная.

— Чаму? Людзі здольныя атрымліваюць павышэнне.

— Я нездольны!

Як бы ад сораму ён на момант скрыўся пад вадой.

— Мабыць, у вас у сям'і ёсць нехта высокапастаўлены? — спытаў я, калі ён зноў выплыў.

— У мяне няма сям'і. Умаляю, я зусім без сіл! — Ён зноў нырнуў.

— Эй, вы, не хавайцеся, калі з вамі размаўляюць! — разлаваўся я. — Так мы да нічога не дойдзем!

Відаць, ён зразумеў, што са мною не жартачкі. Неймаверным намаганнем ён усплыў.

— Ну а жонка? Мо ў яе ёсць хто-небудзь за граніцай?

— Дзядзька!

Я пачаў расшнуроўваць чаравікі.

— Хто гэты дзядзька?

— Грузчык.

Я зашнураваў чаравікі.

— Усяго добрага, — сказаў я. — На жаль, я вельмі спяшаюся.

— Куды вы? — загаласіў мой субяседнік і пачаў выраблядь рукамі незразумелыя рухі, якія, дарэчы, памагалі яму ўтрымацца на паверхні. Але я страціў да яго ўсялякую цікавасць.

«Чалавечае жыццё вельмі цэнінае, каб яго бяздумна расстрачваць», — успомніў я вычытаную недзе думку і шпаркім крокам пайшоў сваёй дарогай.

**Фэлікс Дарэцкі**



— Толькі што была перадача «Умелыя рукі»...

# НІЎКА



Муж і жонка.

## МУЖ І ЖОНКА

**Жонцы муж**
**Стараўся дагадзіць,**
**На ручках стаў**
**Яе насіць,**
**Абед, вячэру**
**Гатаваць,**
**Ў пасцельку ежу**
**Падаваць:**
**Нехай пад'есць**
**І адпачне —**
**Не будзе грызці**
**Больш мяне.**
**А жонка ела**
**І таўсцела,**
**На мужа**
**Коса ўсё глядзела.**
**Стаміўся муж,**
**Ён стаў пядуж,**
**А жонка:**
**— Што гэта**
**За муж!..**
**Узяў — як ляльку**
**Даглядай,**
**Раскошу мне,**
**Выгоду дай.**
**Сварлівай жонцы**
**Не дагодзіш,**
**Ты толькі**
**Сам сабе нашкодзіш.**

**А. Дзяржынскі**

## ДОБРЫ МУЖ

Размаўляюць дзве прыяцелькі аб мужах. Адна гаворыць:

— Мой муж таксама мне часам памагае. Сёння ён сарваў лісток календара.

## НЕ РАЗУМЕЕ

— Не разумею, — гаварыў тараджанін, гуляючы па палях і цешучыся прыгажосцямі прыроды. — Не разумею, чаму не будуюць гарадоў за гарадам? Паветра тут такое чыстае і свежае!

## Талабаломка

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**
**$3 + 3/3 + 3^2 = 31$**

## ДРУЖНЫЯ КАМАРЫ

Аднойчы вясной нейкі камар запішчаў у камарыным вырай:

— Браточкі, ці ж мы не такія дружныя, як мурашы! Пярэймем у іх пачын, збудуем сабе дом!

Камарам прапанова вельмі спадабалася. Яны адразу ж узгарэліся жаданнем мець уласны вялікі дом і пачалі горача абмяркоўваць план пабудовы.

Піск стаяў на ўвесь лес. Аж да самай зімы.

Ды на гэтым усё і скончылася.

**Я. Казлоўская**



Аператара цікавіць і ўнутраны змест героя.

## НА ЭКЗАМЕНАХ

Прафесар экзаменуе студэнта-медыка.

— Пра што вы павінны спытаць адразу ж, як вас выклікаюць да хворага?

— Дзе жыве хворы.

## РУБЕНС

Напомніўшы Рубенсу пра яго маладыя гады, адзін з прыхільнікаў яго таленту спытаў, чаму ён так доўга вучыўся ў бяздарных мастакоў.

— Вы памыляецеся, — адказаў Рубенс. — Я вучыўся ў іх толькі карыснаму.

— Чаму менавіта? — здзівіўся субяседнік.

— Вучыўся, як не трэба маляваць.

## ЛЯНІВЫ

Адзін чалавек на раздарожжы не ведаў, па якой дарозе ісці далей, і запытаўся ў хлопчыка-пастуха, які ляжаў на жываце і глядзеў сваіх авечак:

— Скажы, якая дарога ідзе вось туды?

— Тая, — буркнуў хлопчык і нагой паказаў дарогу.

— Ну і лянівы ж ты! — сказаў чалавек. — Дам табе чвэрць долара, калі ты пакажаш сябе яшчэ большым лянюгам.

— Сунь мне іх у кішэню, — адказаў хлопчык.



— Зноў занатурыўся.

## ЯК ХАМА ПЕРАХІТРЫЎ ЦЫГАНА

Вельмі хацелася жулікаватаму цыгану мець за кума пасечніка Хаму. Прыстаў, як смала, і Хама не мог адмовіцца.

Не паспеў Хама стаць хросным, як да яго ўжо бяжыць кум.

— Кумок, каб ты ведаў, — кажа цыган, — як твой хрэснік расце. Ужо зусім выразна крычыць — мё-мё-мё. Мы яму малака, соску, таго-сяго, а ён сваё — мё-мё-мё. Можа мёду? — пытаю ў яго. Ён усміхаецца і маркоча — мё-мё-мё.

Напоўніў Хама слоік мёдам.

Назаўтра кум зноў на парозе. Хоць і шкада было але Хама зноў паслаў хрэсніку пачастунак. Калі ж праз дзень кум прывалокся на пасеку, то Хама яму так сказаў:

— Няма ў мяне часу з табой важдацца. Вунь, на ліпе, бачыш, вулей? Лезь і бяры мёд сам.

Спрытна па лесвіцы ўскочыў на дрэва цыган. Тым часам Хама прыняў лесвіцу. Толькі крануў цыган вулей, як яго абсыпалі пчолы. Ён пачаў кідацца па дрэве, рынуўся ўніз, а лесвіцы няма. Скочыць баіцца, бо высока. Крычыць, на чым свет стаіць. Прыбег Хама і пытае: «Чаго табе?» У цыгана і з галавы выскачыла, як завецца лесвіца. Ён толькі мычыць ды рукой торкае ўніз. Хама падае яму то сякеру, то вядро, то рыдлёўку. Раней, чым Хама «здагадаўся» падаць лесвіцу, кум грымнуў уніз, падкапіўся і задаў лататы.

Больш яго сын не прасіў мёду.

## НЕ БЫЎ УПЭЎНЕНЫ

Вадзіцель машыны збіў таўстуна.

— Вы што, не маглі мяне аб'ехаць? — зараўла ахвяра.

— Выбачайце, — засмучана сказаў вадзіцель. — Я не быў упэўнены, ці хопіць у мяне бензіну на аб'езд.



— Ты павінен схадзіць у горад да акуліста!..

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе дзяўчат Н., І. і А. з Грабаўца, Гайнаўскага павета, а таксама Анатоля Пракопчыка з вёскі Ляшчаны, Сакольскага павета, змяшчаем песню п. з.

### Хороши весной в саду цветочки

**Стихи С. Алымова, музыка Б. Мокроусова**

Хороши весной в саду цветочки,
Еще лучше девушки весной.
Встретишь вечерочком
Милую в садочке —
Сразу жизнь становится иной.
(2 раза)

Мое счастье где-то недалечко.
Подойду да постучу в окно.
Выйди на крылечко
Ты, мое сердечко,
Без тебя тоскую я давно.
(2 раза)

В нашей жизни всякое бывает,
Набегает с тучами гроза.
Туча уплывает,
Ветер утихает,
И опять синеют небеса.
(2 раза)



Звышкар'ерыст.

## ВЕДАЕ

На ўроку фізікі настаўнік, збіраючыся вытлумачыць прынцып працы гідраэлектрастанцыі, гаворыць:

— Ці ведаеце вы, дзеці, як людзі з дапамогай вады атрымліваюць святло?

Пеця падняў руку:

— Ведаем: трэба вымыць акно вадой.

## ЗАВЯШЧАННЕ

— Пане натарыус, прашу дапоўніць маё завяшчанне. Хачу каб на маім пахаванні іграў акрестр.

— Безумоўна, калі ласка, — паслужліва згадзіўся прысяжны. — Скажыце толькі, што вы найлепш хацелі б паслухаць.

# Курёзы

## ПАРАДА МАЕ РАЦЫЮ



Амерыканская газета «Нью-Йорк пост» піша: «Як вывесці амерыканскія войскі з В'етнама — гэта старое пытанне. Але калі з ім звярнуліся да былога члена Кангрэса 85-гадовай Джанет Рэнкін, яна заявіла: «Забярыце іх гэтак жа, як прывезлі туды — на караблях і самалётах».

## ЗНЕСЛА КУРАЧКА ЯЕЧКА...

...не простае, але і не залатое. Калі Энах Нільсан, фермер з Ветланды (Паўднёвая Швецыя), знайшоў гэтае яйка ў гняздзе адной са сваіх нясушак, ён падумаў, што з яго пажартаваў хто-небудзь з суседніх хлапчукоў: вельмі ўжо яйка было падобнае на більярдны шар. Тым не менш ён не правяраў яго «на трываласць» і на ўсялякі выпадак схаваў. Запрошаны на экспертызу яйка ветэрынар заявіў, што ў дадзеным выпадку гутарка ідзе пра вельмі рэдкі экземпляр: шарападобнае курынае яйка сустракаецца адно на мільярд.

## КУПІЛІ...

Італьянскія дзялкі прадалі амерыканскім мільянерам сем антычных статуй рымскага консула Лівінуса Пілаві. Уся соль гэтай гісторыі ў тым, што ні консула Пілаві, ні тым больш яго статуй ніколі не існавала.



**Забаронены плод часцей за ўсё расце ў чужым садзе.**